# Тыднёвік Магілёўскі




№ 12 (127) 21 – 27 верасьня 2001 г. Кошт 80 руб.


# Грамадзтва саступаць не зьбіраецца





Фота IREX

**_У новае стагодзьдзе Беларусь увайшла з цэнзурай, палітычнымі вязьнямі і трагічнымі зьнікненьнямі людзей. Ад 7 траўня 1999 году няма Юрыя Захаранкі, ад 16 верасьня 1999-га няма Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, ад 7 ліпеня 2000-га – Зьмітра Завадзкага. Разам іх няма ўжо 2763 дні._**

*Зінаіда Ганчар кажа, што ня кіне дамагацца праўды пра зьнікненьне ейнага мужа. Дагэтуль няма ніякіх зьвестак пра супрацоўніка КГБ Угляніцу і актывіста спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край" Жарнасека, якія выступілі з выкрыцьцём найвышэйшых дзеячоў улады па справе Ганчара і Красоўскага. Палкоўніка Алега Алкаева звольнілі зь міліцыі. Справа Зьмітра Завадзкага дагэтуль ня трапіла ў суд.*

*16 верасьня споўнілася 2 гады, як зьніклі намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Віктар Ганчар і бізнэсовец Анатоль Красоўскі. Улады дагэтуль кажуць, што тайна гэтага зьнікненьня не раскрытая, хаця ўжо зьявілася шмат сьведкаў нападу і расправы над апазыцыянэрамі. Аднак афіцыйна сьледзтва нават не наблізілася да завяршэньня, а ўлады працягваюць абвінавачваць апазыцыю ў спэкуляцыях на тэму зьніклых.*

*Зінаіда Ганчар заявіла, што вынікі прэзыдэнцкіх выбараў ніяк не паўплываюць на яе барацьбу: "Я буду рабіць тое, што рабіла раней. Пісала і буду пісаць, хадзіла і буду хадзіць, сустракалася і буду сустракацца з тымі, хто можа дапамагчы знайсьці Віктара".*

*У КГБ кажуць, што дагэтуль невядома, дзе знаходзіцца іхны супрацоўнік Генадзь Угляніца. Нагадаю, што чатыры тыдні таму зьявілася касэта, на якой супрацоўнік менскага ўпраўленьня КГБ Генадзь Угляніца і актывіст арганізацыі "Край" Андрэй Жарнасек распавялі пра сваё расьсьледаваньне справы Ганчара і Красоўскага. На падставе паказаньняў сьведкі Мяцельскага яны абвінавацілі пэўных асобаў з улады ва ўдзеле ў выкраданьні апазыцыянэраў.*

*Выглядала цалкам верагодным, што неўзабаве Ўгляніца з Жарнасекам альбо вызначацца як выканаўцы адмысловага заданьня па дыскрэдытацыі праблемы зьніклых людзей, альбо зьявяцца за мяжой як уцекачы. Пакуль, аднак, не адбылося ні першага, ні другога.*

*Яшчэ адзін сьведка па справе Ганчара і Красоўскага, былы начальнік сьледчага ізалятару Алег Алкаеў пакуль не зьбіраецца вяртацца зь Нямеччыны ў Беларусь. Ягоная жонка Ірына заявіла, што яна катэгарычна супраць вяртаньня мужа на радзіму, бо "ніякіх правоў у гэтай дзяржаве няма".*

*Раней Алкаеў ня выключыў існаваньня ў Беларусі "эскадрону сьмерці" й выказаў меркаваньне, што сакрэтнае падразьдзяленьне для зьнішчэньня апазыцыянэраў было створанае на загад найвышэйшага кіраўніцтва краіны.*

**_Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ_**

*__P.S.__ Усяго на працягу трох месяцаў правядзеньня кампаніі "Хочам ведаць праўду" у яе акцыях узялі ўдзел 3.700 чалавек у 35 рэгіёнах краіны. За гэты час было распаўсюджана 1.100.000 асобнікаў спэцвыпускаў газэты "Народная воля", прысьвечаных зьніклым палітыкам, бізнэсмэнам і журналістам, а таксама 200. 000 асобнікаў іншай друкаванай прадукцыі.*

*Як паведаміў старшыня АГП Анатоль Лябедзька, калі ў траўні пра зьніклых у Беларусі вядомых людзей ня ведала амаль палова грамадзтва (паводле вынікаў сацыялягічных апытаньняў), то цяпер гэтая лічба зьнізілася да 20%.*

*Зараз разглядаецца магчымасьць ініцыяваньня разгляду справы аднаго са зьніклых беларускіх палітыкаў у Эўрапейскім судзе з мэтай прыцягнуць большую ўвагу міжнароднай грамадзкасьці да жахлівых падзеяў у нашай краіне.*

* * *

*Між тым галоўнай тэмай сусьветных сродкаў масавай інфармацыі застаецца амэрыканская трагедыя і супольныя пошукі цывілізаваных краінаў у барацьбе з тэрарызмам, які ёсьць замахам на дэмакратыю і свабоду. Па-за гэтымі клопатамі застаюцца толькі адзінкавыя краіны, што робіць іх выключэньнем з агульных правілаў. Такім выключэньнем праяўляе сябе Беларусь і ейныя афіцыйныя газэты і тэлебачаньне. Людзі, пра што мы падаем інфармацыю на 2-й стар., выяўляюць натуральныя чалавечыя пачуцьці. Грамадзтва ўсё больш задумваецца аб тым, што трэба зрабіць, каб не застацца ў баку ад агульначалавечых гісторыі і прагрэсу. І толькі ўлада дэманструе надзвычайны спакой і абыякавасьць, заклапочаная выключна сама сабой і замацаваньнем сваёй "элегантнай" перамогі... Так што не Беларусь як такая, а хутчэй нашая ўлада – выключэньне з правілаў. Як тое ня горка прызнаваць.*

**_«Тыднёвік»_**

## ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

# Прычыну знайсьці ня цяжка

Днямі з 4-га курсу Магілёўскага палітэхнікума выключаны Зьміцер Букатаў. Адміністрацыя выставіла яму ў якасьці афіцыйнай прэтэнзіі пропускі некалькіх заняткаў, хаця гэты юнак далёка ня ёсьць лідэрам у гэтай распаўсюджанай зьяве. Па-за афіцыйнай прычынай, як пра тое ведае ўвесь тэхнікум, зусім іншая нагода для расправы са Зьміцерам, а менавіта – ягоная актыўнасьць у часе мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай". Пры гэтым варта заўважыць, што кампанія гэтая не прапагандавала нікога з кандыдатаў, а была накіраваная толькі на тое, каб запрасіць на выбары як мага больш людзей, асабліва звычайна пасыўную моладзь. Усьлед за Зьміцерам яшчэ двох навучэнцаў гэтай установы напаткаў такі ж лёс – Каліту і Паўловіча. Пагроза выключэньня сваім ценем накрыла і яшчэ аднаго юнага актывіста С.Пашкевіча. Выключэньні з навучальных установаў за пасьлявыбарчы час спазналі на сабе двое студэнтаў Магілёўскага ўніверсытэту і вучань тэхнічнага ліцэю.

**_Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ,_**
**_прэсавы сакратар кампаніі "Выбірай"_**

◆

# Так могуць гаварыць толькі сябры

**_На тэму прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі выказаліся шматлікія прадстаўнікі эўрапейскіх і амэрыканскіх афіцыйных структураў. Падаем некаторыя з гэтых выказваньняў._**

**Філіп Рыкер, прэсавы сакратар Дзяржаўнага дэпартамэнту Злучаных Штатаў Амэрыкі:** "Міжнародная місія назіраньня паведаміла, што выбарчы працэс не адпавядаў стандартам АБСЭ ў галіне правядзеньня дэмакратычных выбараў. На жаль, ніводны элемэнт выбарчага працэсу ня быў адкрыты ці справядлівы. Лукашэнка толькі выкарыстаў заслону выбараў, каб сканструяваць для сябе перамогу. Беларускія ўлады выразна прадэманстравалі пагарду да дэмакратыі і правоў чалавека падчас выбараў. Яны не дазволілі іх празрыстасьці на ўсіх этапах і праводзілі кампанію запалохваньня".

**Ары Флэйшэр, прэс-сакратар Белага Дому:** "Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш лічыць, што беларускія выбары не былі свабоднымі і справядлівымі й ня могуць атрымаць міжнароднага прызнаньня. А.Лукашэнка, апошні дыктатар Эўропы, ня толькі скраў выбары ў беларускага народа, ён таксама скраў у яго магчымасьць вярнуцца на шлях да дэмакратыі і свабоднай рынкавай эканомікі".

**Гунар Віеган, прадстаўнік Камісара зьнешніх сувязяў Эўрапейскага Зьвязу:** "Ясна адно – выбары не былі праведзеныя адпаведным чынам. ЭўраЗьвязу зразумела, што калі Беларусь заклапочаная паглыбленьнем адносінаў з Эўропай, яна павінна забясьпечыць дэмакратычныя стандарты, свабоду прэсы і паважаць правы чалавека. Гэтыя выбары не адпавядаюць стандартам АБСЭ альбо Рады Эўропы. Ізаляцыя ёсьць сымбалем такой палітыкі. Мы ў Эўропе дасягнулі іншага палітычнага ўзроўню, так што Беларусь павінна зрабіць тое самае".

**Гаўер Саляна, Вярхоўны прадстаўнік Эўрапейскага Зьвязу ў справах зьнешняй палітыкі і бясьпекі:** "Мы ня будзем нармалізоўваць адносіны з краінай, у якой не паважаецца свабода выбору".

**Мірча Джаанэ, дзейны старшыня АБСЭ, міністар замежных справаў Румыніі:** "Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі павінны былі наблізіць краіну да эўрапейскай дэмакратыі, аднак гэтага не адбылося".

**Жэрар Студман, дырэктар Бюро дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека АБСЭ:** "Выбары адбыліся не ў адпаведнасьці зь міжнароднымі стандартамі, стандартамі АБСЭ і Рады Эўропы. Яны не адпавядаюць нармальным дэмакратычным стандартам. Гэта мая першая выснова. З другога боку, мы былі сьведкамі й мы вітаем самы пачатак нараджэньня грамадзянскай супольнасьці, асабліва сярод маладых людзей".

**_Паводле інф. агенцыяў_**



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Абласная "вэртыкаль" чарговым разам знайшла, куды ўкласьці грошы (раней быў "ледовый дворец"). Цяпер у нас будуць узводзіць канцэртную пляцоўку ў раёне Пячэрскага лесапарку. Прычым, пра маштабы працаў мусяць сьведчыць наступныя лічбы: умяшчальнасьць заплянаванай пляцоўкі – да 15.000 чалавек, а толькі папярэдні кошт усёй задумы перавышае 1 мільён даляраў! Ці ёсьць з чаго дзівіцца? Непадалёк стаіць двухсотгадовая больніца, якой патрабуецца пашырэньне і рамонт. Жыльлёвая чарга ў горадзе яшчэ шасьцідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя не зачыніла...

Кожны год гараджане едуць на калгасныя палі й зносяць зь іх кукурузу. Калгасы нясуць страты, міліцыя штрафуе злодзеяў, але праблема "квітнее". Аблвыканкам паспрабаваў вырашыць яе. Што цікава – улады гэта робяць ужо другі год запар. У мінулым годзе міліцыя напружана разганяла тых бабулек, што гандлявалі варанай кукурузай. Сёлета вырашана, што будуць ледзь не ў турму саджаць. Сумнеўна, каб сілавыя захады далі плён. Варта было б перавесьці справу на камэрцыйную аснову. Ёсьць попыт на кукурузу ў насельніцтва – дык зарабляйце з таго грошы.

Ленінскі райсуд Магілёва аштрафаваў на 600 мінімалак (больш за $3.000) галоўнага доктара чыгуначнай больніцы за крадзяжы лекаў. Прыкладна паўгады галоўны ўрач выпісваў у ведамаснай аптэцы лекі на падстаўных асобаў, усяго – на паўмільёны рублёў. Суд, аднак, не пайшоў па шляху больш жорсткага пакараньня. Высьветлілася, што гал.-доктар выкарыстоўваў лекі для лячэньня ўласных хваробаў. Дажылі ж мы да таго, што дзеля собскага выжываньня людзі вымушаныя ісьці на правапарушэньні! Галоўнаму доктару 'шчэ й пашчасьціла: ён здолеў-такі падлекавацца, бо меў магчымасьць хоць так вырашаць сваю праблему. А колькі сёньня людзей, у якіх нават на асьпірын з валідолам не стае грошай!..

Часьцяком, калі няма сродкаў, у нас прызначаюць сьвяты. Так і 15 верасня паводле лукашэнкавага ўказу ў краіне адзначаўся Дзень бібліятэк. Мяркуйце самі: акрамя падпіскі на "Советскую Белоруссию" і да т.п. у абласной бібліятэкі больш ні на што няма грошай. Магчыма, упершыню за сваю гісторыю бібліятэка амаль не атрымлівае пошты. За год было атрымана ўсяго некалькі соцень асобнікаў кніг. У бібліятэчнай сыстэме не хапае супрацоўнікаў, паколькі сярэдні заробак там 40-50 тыс. руб.

Магілёўскі будаўнічы тэхнікум у наступным годзе стане каледжам і будзе аб'яднаны з Магілёўскім дзяржаўным тэхналягічным унівэрсытэтам. Па сведчаньні адмыслоўцаў у галіне адукацыі, справа добрая. Пры унівэрсытэтах павінны працаваць каледжы, і трэба прайсьці ўвесь ланцужок, каб потым атрымаць дыплём бакаляўра. Але ёсьць праблема – матэрыяльная. Бо добрая адукацыя каштуе вялікіх грошай. І яшчэ праблема – добрая адукацыя патрабуе высокага ўзроўню пэдагагічных кадраў. Тут ёсьць у чым сумнявацца. Вельмі хочацца, канешне, каб нашыя будаўнікі перасталі нецэнзурна лаяцца, жлукціць "чарніла" і халтурыць. Добра было б, каб у каледжы навучэнцаў вучылі іншым рэчам.

Больш за траціну таксовак Бабруйска маюць праблемы з тэхнічным станам машын, а значыць – яны небясьпечныя на дарозе. Праўда, кантралёры, якія выкрылі гэткі прыкры факт, правяралі толькі прыватныя таксоўкі. Той, хто езьдзіў на ўшчэнт разьбітых дзяржаўных "Волгах", пагадзіцца, што кантралёрам варта было б і на гэтыя машыны зьвярнуць увагу. Канешне, тэхнічна няспраўныя аўтамабілі нельга выпускаць у рэйсы: што прыватныя, што дзяржаўныя. Але ж, трэба ствараць умовы для падвышэньня канкурэнцыі паміж імі. Тады яна, сапраўдная канкурэнцыя, сама ўсё і выправіць, як гэта адбылося ўжо ў краінах Балтыі ці на Ўкраіне. Тады дзяржкантралёрам ня будзе нават чаго правяраць.

*Да сустрэчы праз тыдзень, Сымон Глазштэйн.*

## Ау, эколягі!

ГА "Беларускі фонд запаведнікаў", МГА "Экалягічная ініцыятыва "Буренко" і Milieukontakt Oost-Europa ў рамках супольнага праекту "Умацаваньне пазыцыяў грамадзкіх экалягічных арганізацыяў у Беларусі" праводзяць акцыю "Праз экалягічную адукацыю да правільных дзеяньняў".

Плянуецца правядзеньне двох сэмінараў: у Менску й на базе Бярэзінскага дзяржаўнага біясфэрнага запаведніку. Прыблізныя даты: канец кастрычніка – сярэдзіна лістапада 2001г. Дакладная праграма сэмінараў будзе разасланая тым, хто падасьць заяўкі, пасьля канчатковага вызначэньня даты правядзеньня сэмінараў і з улікам пажаданьняў мяркуемых удзельнікаў.

Тэрмін падачы заявак – да 23-га верасьня.

Форму анкеты можна атрымаць па адрасах:

1. Беларускі фонд запаведнікаў, пр-кт Машэрава, 11-11, 220004, Менск.
2. E-mail: barc@user.unibel.by.
3. E-mail: Golovchits@hotmail.com.
4. Golovchits@tut.by.

# Кніга памяці, горычы і спачуваньня

*Гэтымі днямі на стале ля ўваходу ў будынак амэрыканскай амбасады ў Менску людзі запаўняюць ужо другую кнігу спачуваньняў. Адметна, што ангельскамоўных і беларускамоўных спачуваньняў значна больш, чым расейскамоўных. Багата запісаў кшталту "Жывее Амэрыка! Жыве Беларусь!".*

*Людзі зьвяртаюцца да прэзыдэнта Амэрыкі Джорджа Буша, да амбасадара Майкла Козака, узгадваюць сваіх знаёмых альбо сваякоў у Злучаных Штатах. Многія прыходзяць зь дзецьмі. Бальшыня вітае рашэньне амэрыканскіх уладаў пакараць непасрэдных замоўнікаў і спраўцаў акцыяў тэрору. Практычна ўсе, хто пакідае свае спачуваньні, кажуць пра тое, што зусім не адчуваюць сябе ў бясьпецы.*

*Ганна СОУСЬ*

*Паводле нашай інфармацыі, многія магілёўскія дэмакраты зрабілі спачувальныя запісы ў Кнігу памяці. Некаторыя зь іх дзеля гэтага адмыслова прыехалі ў Менск.*








# Зь першых вуснаў

***Менавіта такую форму сапраўды дзелавых і зацікаўленых ўзаемаадносінаў скарысталі днямі ў Магілёве мясцовыя дэмакраты ў сустрэчах з амэрыканскімі гасьцямі, што ад імя ўраду ЗША працягваюць наладжваць у нашай краіне ня толькі афіцыйныя кантакты, але й тыя, што ва ўсім сьвеце трактуюцца як народна-дыпляматычныя.***

Пра стаўленьне амэрыканскіх уладаў да беларускіх выбараў і, адпаведна, пра магчымае разьвіцьцё далейшых адносінаў паміж урадамі, краінамі і дэмакратычнымі супольнасьцямі ЗША і Беларусі непасрэдна з вуснаў пасланьніка Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША Джына Фішэла, супрацоўнікаў амбасады Тэда Контэка і Марка Фунгарда пачулі магілёўскія прадстаўнікі недзяржаўнага грамадзкага сэктару, палітычных партыяў, праваабарончых структураў, шэрагу моладзевых і жаночых арганізацыяў. У сваю чаргу амэрыканскія госьці наўпрост дазналіся пра меркаваньне мясцовых суразмоўцаў аб тым, чаму дэмакратыя ўсё яшчэ ня мае перамогі ў нашай краіне, аб плянах і бліжэйшых справах магілёўскага дэмакратычнага асяродзьдзя на шляху далейшага засваеньня і распаўсюджваньня ў шырокіх грамадзкіх колах каштоўнасьцяў адкрытага грамадзтва. Амэрыканцы запэўнілі гаспадароў сустрэчаў аб працягу шчырай дапамогі і падтрымкі гэтых намаганьняў, якія закліканыя ў канчатковым выніку забясьпечыць поўнавартаснае ўступленьне Беларусі ў сям'ю дэмакратычных і дабрабытных краінаў Эўропы і Сьвету.

Амэрыканскія госьці наведалі таксама касьцёл сьв. Станіслава, дзе мелі гутарку з пробашчам Раманам, прысутнічалі на імшы, пацікавіліся жыцьцём парахвіі.

Магілёўцы выказалі гасьцям шчырыя спачуваньні з нагоды людзкіх ахвяраў у ЗША ў выніку тэрору, адрынутага ўсім цывілізаваным сьветам. Амэрыканцы разам з удзячнымі словамі ў адказ сьведчылі рашучасьць ЗША разам зь іншымі краінамі перамагчы тэрарызм як самую прыкрую зьяву новага стагодзьдзя, і захаваць пры тым у жыцьці чалавецтва ўсе перавагі дэмакратыі, свабоды, правоў чалавека і рынкавай эканомікі.

***Уласная інфармацыя***

# На шляху да новай стратэгіі

***У Менску адбыўся Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", які падсумаваў вынікі прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Сябры Сойму прынялі заяву, у якой заклікалі міжнародную супольнасьць не прызнаваць вынікі выбараў 9 верасьня, бо яны цалкам сфальсыфікаваныя.***

***Некаторыя выступоўцы заклікалі кіраўніцтва БНФ сыйсьці ў адстаўку з нагоды прайграных прэзыдэнцкіх выбараў, аднак гэтая прапанова не атрымала падтрымкі большасьці.***

**Асабістым меркаваньнем аб выніках Сойму з "Тыднёвікам" падзяліўся адзін з сустаршыняў БНФ, старшыня абласной арганізацыі гэтага Руху і каардынатар абласнога штабу адзінага кандыдата ад шырокай грамадзка-дэмакратычнай кааліцыі Анатоль ФЁДАРАЎ:**

– На маю думку, шмат якія палітычныя і грамадзкія структуры ўключна з БНФ зрабілі шэраг памылак, якія прадвызначылі выбарчую паразу. Пра тое я сказаў на Сойме і магу паўтарыць для ўсіх. Усім нам не хапіла палітычнай волі і энэргіі для перамогі на нацыянальна-дэмакратычнай плятформе. Усе сілы былі скіраваныя не на працу з выбарцамі, а на абслугоўваньне кандыдата па цяперашніх выбарчых тэхналёгіях, якія, аднак, у бягучых беларускіх умовах не спрацавалі й не маглі спрацаваць. У гарачцы практычнай працы (а зроблена было шмат) мы забыліся пра стратэгічныя мэты як нацыянальнай, так і шырокай дэмакратычнай апазыцыі. Адпаведна ўцягнуліся ў выбарчую барацьбу, не зважаючы на тое, што кампанія для нашага праціўніка была толькі прыкрыцьцём для захаваньня ўлады. Таму весьці яе мэтадамі, прынятымі ва ўсім дэмакратычным сьвеце, як гэта рабілі мы – значыла прайграць. Мы перабольшалі ў сваім чаканьні "намэнклятурнай рэвалюцыі". Спадзяваньні тут зусім былі марнымі, але, на жаль, падчас кампаніі вельмі многіх дэмакратаў літаральна гіпнатызавала ідэя дапамогі з боку "сумленных чыноўнікаў".

З усяго трэба зрабіць шчырыя высновы і працягваць змаганьне за краіну, дэмакратыю і волю. Ясна, што цяпер адыйдуць ад супрацоўніцтва з нацыянальна-дэмакратычнымі сіламі камуністы, сацыял-дэмакраты Статкевіча, хутчэй за ўсё – прафсаюзы. Гэта не паслабіць, а ўмацуе сьвядомыя патрыятычныя партыі, аб'яднаньні і рухі. У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў цяпер, на маю думку, трэба мець сталыя структуры, асабліва ў кірунку выпрацоўкі стратэгічных задачаў і мэтадаў працы. Заўсёднай задачай застаецца праца з рэальнымі людзьмі, якія дасьпяваюць, здаецца, да разуменьня неабходнасьці ў краіне пераменаў, аднак даволі проста паддаюцца яшчэ на кручок бэтэшнай і "советско-белорусской" прапаганды. Вельмі важкая цяпер задача – уратаваньне тых, каго ўлада безсаромна пераследуе за ўдзел у выбарах "не на тым баку". Адметна, што прадстаўнікі дэмакратычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў, праваабарончых структураў аб'ядналіся цяпер у своеасаблівы абласны штаб, каб сумесна ўдзельнічаць у лёсе тых, каго пераследуюць па месцы працы, а тым больш з боку адміністратыўных органаў. На жаль, такіх выпадкаў у вобласьці шмат. Аднак мы будзем абараняць людзей – юрыдычна, маральна, а там, дзе здолеем, і матэрыяльна.

# Суд хуткім ня будзе

Учора ў Менску мелася адбыцца першае паседжаньне Вышэйшага гаспадарчага суду па справе аб спыненьні дзейнасьці незалежнай гарадзенскай газэты "Пагоня". На жаль, па тэхнічных парамэтрах выхаду нашай газэты мы ня можам апэратыўна паведаміць пра ягоныя вынікі. Аднак упэўненыя, што суд ня будзе хуткім і лёгкім для ягоных ініцыятараў, бо справа, на думку калектыву "Пагоні", падаецца надуманай і несправядлівай.

Гэтую справу – аб ліквідацыі недзяржаўнай газэты – гаспадарчы суд распачаў пасьля адпаведнага звароту пракурора Гарадзенскай вобласьці. Раней у верасьні, як напярэдадні, так і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, гарадзенская пракуратура арыштоўвала асобныя нумары выданьня. 12-га чысла былі арыштаваныя рэдакцыйныя рахунак і папера. Рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч выклікаўся ў абласную пракуратуру на допыт з нагоды ўзбуджэньня супраць газэты крымінальнай справы "по факту клеветы на президента".

Раней мы ("ТМ" №7 ад 17 жніўня) паведамлялі пра перасьлед "Пагоні" гарадзенскімі ўладамі, калі журналістаў запалохвалі й вымушалі супрацоўнічаць з КГБ. Праваахоўныя органы канфіскавалі ў рэдакцыі сыстэмныя блёкі ўсіх кампутараў, фінансовыя дакумэнты за апошнія паўгады, а таксама рукапісныя матэрыялы.

А цяпер – суд над вольным словам. Гэтай нататкай мы ня толькі інфармуем чытачоў аб чарговым наступе на незалежную прэсу, але й выказваем прафэсійную салідарнасьць з калегамі і падтрымку ў іхным справядлівым змаганьні за свае – нашы! –правы.

*Уласная інфармацыя*

## З НАДЗЕЯЙ НА ДАПАМОГУ

# Якое сэрца не ўскалыхнецца...

Праз усю беларускую гісторыю разам з народам у часе ягоных трагедыяў альбо перамогаў, суцяшаючы і радуючы, прайшоў свой шлях сапраўды народны музычны інструмэнт – цымбалы. Якое беларускае сэрца не ўскалыхнецца пры гуках струнаў, што здольныя пад умелай рукой музыкі закрануць самыя глыбінныя пачуцьці і выклікаць самыя высакародныя эмоцыі!

Прыемна адчуваць, што магілёўская школа цымбалістаў, а менавіта так можна казаць пра цымбальныя клясы ў музычнай вучэльні і на факультэце Акадэміі музыкі, захавала лепшыя традыцыі гульні на чароўных струнах, дала жыцьцё многім таленавітым выканаўцам, засьведчыла сваю эўрапейскую вядомасьць. Як прызнаньне гэтага посьпеху, у 1997 годзе менавіта ў Магілёве адбыўся чарговы Міжнародны кангрэс цымбалістаў, у часе якога магілёўская цымбальная школа атрымала новае пацьверджаньне свайго музычнага аўтарытэту. Мінулы час ня стаўся пачываньнем на лаўрах. Цымбальныя клясы працягвалі шукаць і знаходзіць юныя таленты. Лепшыя музыкі дамагліся новых творчых посьпехаў, актыўна выступалі як на вялікіх сцэнах, так і сельскіх клюбах. Днямі надарылася магчымасьць праявіць сябе на Міжнародным конкурсе выканаўцаў на шматструнных народных інструмэнтах (канілес, кантэле, гусьлі, цымбалы), які мае быць у расейскім Пскове напачатку кастрычніка. На творчыя спаборніцтвы запрошаныя нашы лепшыя ў сваіх узроставых катэгорыях цымбалісткі – юная Аня Фралова з 2-га курсу музвучэльні і выкладчыца дзіцячай музычнай школы №2 Руслана Гусарэнка. Адпаведна іх павінны суправаджаць канцэртмэйстэр і пэдагог-выкладчык. Магілёўская творчая дэлегацыя ўпэўненая ў сваёй творчай перамозе. Для яе патрэбнае толькі адно: прыехаць у Пскоў – і зачараваць яго чароўнымі гукамі беларускіх цымбалаў.

Аднак такога можа не адбыцца. Магілёўскія цымбалы могуць не прагучаць перад міжнародным аўтарытэтным журы і аматарамі музыкі з многіх сумежных краінаў. Падрыхтаваная творчая праграма можа застацца не запатрабаванай і не пачутай... Гэта ня спыніць нашай творчай працы, але настрою не надасьць, асабліва нашым таленавітым выканаўцам, якія, як ужо адзначалася вышэй, пераканаўча настроеныя на заслужаную перамогу.

Адкуль жа такі сум і нават горыч? Ехаць дэлегацыі пакуль няма за што. Грошай на ўдзел у творчым конкурсе ня маюць ні ўпраўленьне культуры, ні музвучэльня, ні факультэт. Кожная з гэтых установаў намагаецца дапамагчы, але магчымасьці не дазваляюць. Упраўленьне культуры, як падаецца, знаходзіць сродкі на ўдзел адной нашай канкурсанткі. Нешта ад сябе намагаецца зрабіць гарадзкі аддзел па працы з моладзю. Але на ўсю дэлегацыю, на папярэдні абавязковы ўнёсак на адрас арганізатараў конкурса сродкаў не стае.

***Вось тым і выкліканы наш зварот да чытачоў "Тыднёвіка", якім, спадзяемся, дарагое сапраўднае мастацтва, што зыходзіць з народных традыцыяў і народнай шматвяковай творчасьці. Мы будзем удзячныя за фінансовую дапамогу ў забесьпячэньні ўдзелу нашых музыкаў у прэстыжным Міжнародным конкурсе, дзе абавязкова павінны прагучаць беларускія цымбалы. Тыя арганізацыі ці прыватныя асобы, што маюць магчымасьць дапамагчы, могуць зьвязацца са мной праз факультэт Акадэміі музыкі. У нас – у Магілёва! – яшчэ ёсьць час пасьпець на творчы цягнік...***

***Валеры ТУПІЦЫН,***
***выкладчык факультэта Акадэміі музыкі, заслужаны работнік культуры***

## НА КРАПІВЕНЬСКІМ ПОЛІ-2001

# Дым, агонь і песьні

У мінулую суботу на Крапівеньскім полі пад Воршай адбыўся традыцыйны бардаўскі фэст, адзіннаццаты па ліку. Фэст быў перанесены на тыдзень у сувязі з выбарамі, а таму ня стаў такім шматлюдным, як летась. Людзей было разы ў тры менш, чым на юбілейнай 10-й "Аршанскай бітве".

А пачаўся фэст з таго, што міліцыянты абрэзалі лінію сілкаваньня, пазбавіўшы ўдзельнікаў імпрэзы гукаўзмацненьня і асьвятленьня, а таксама затрымалі аднаго з арганізатараў сьвята для "прафіляктычнай гутаркі". На гэтым "дапамога" уладаў і скончылася, а фэст працягваўся ў сапраўдных сярэднявечных умовах: асьвятленьне за кошт паходняў і вогнішчаў, жывы гук сьпеваў безь мікрафонаў і дынамікаў. Нават танчылі толькі пад дуду (валынку) й бубен – жывая сярэднявечная аўтэнтыка. Былі і рыцары з паненкамі, бойка паміж "маскалямі" і "ліцьвінамі", праўда, не такая жорсткая, як летась, бо біліся між сабой прадстаўнікі аднаго рыцарскага клюбу, якім кіруе спадарыня А.Вячорка.

Адметнасьцю гэтага фэсту была батлейка зь цікавай пастаноўкай на злабадзённую беларускую тэму: пра цара Ірада і нованароджанага Мэсію ад шырокай апазыцыі, пра хітрамудрых царскіх дарадцаў і простых біблейскіх беларусаў. Адным словам, было на што паглядзець і каго паслухаць (чуваць, аднак, было не заўсёды добра).

Сярод бардаў выдзяляўся, вядома ж, Андрэй Мельнікаў, які прадстаў перад публікай у белым мэдычным халаце, падперазаны беларускім пасам, з чорнай бабачкай і каляровым банданам на галаве. Яшчэ адной адметнасьцю сёлетняга фэсту мне падалася вялікая колькасьць нарыхтаваных арганізатарамі дроваў, якія, на жаль, аказаліся сырымі. Яны шыпелі, шкварчэлі, але гарэлі вельмі неахвотна. Быў у гэтым пэўны знак: у сёньняшнім беларускім грамадзтве незадаволеных шмат, але гатовых да актыўных дзеяў, да сапраўднага "гарэньня" – мала. Вось і ідзе пакуль толькі дым і шыпеньне, бо "дровам" нашым яшчэ трэба добра падсохнуць.

Але ж у тую ноч на 16-е верасьня дроваў, песень і размоваў ля вогнішчаў хапіла да самае раніцы. Нягледзячы ні на што, традыцыя жыве.

***В.АЎРАМЕНКА***

# Плэнэр для аднаго



...Мне заўсёды падавалася, што ўнутры мяне суіснуюць некалькі мастакоў, у кожнага зь якіх – свае ўлюблёныя тэмы, свае незалежныя пошукі і знаходкі. Вось усіх (акрамя эратамана і крайняга канцэптуаліста) гэтых творцаў я й вырашыў запрасіць на свой плэнэр. Праца пачалася 30-га красавіка зь першай каменнай кветкі (на вуліцы было хораша, сонейка сьвяціла яшчэ па-вясноваму ласкава), за першай была другая, і абедзьве яны, выклікаючы рэзананс сярод гледачоў, упрыгожылі клюмбу перад галоўным уваходам ва ўнівэрсытэт. Каб не было непаразуменьняў, я потым гэтак іх умоўна і назваў – "Жаночая" і "Мужчынская". Затым была "Гісторыя адной начы". І так і пайшло...

Працавалася хутка і лёгка, як на любым плэнэры. Адзінае што – давялося рабіць гэта ў майстэрні, бо сонейка сьвяціла ўжо па-летняму жорстка. Скончыўшы адну працу, адразу здымаў зь яе форму і пачынаў наступную. Бывала, што дзьве ці тры скульптуры рабіліся адначасова. Па вечарах, як заўсёды на плэнэры, заходзілі сябры, мы пілі каву і гарэлку, размаўлялі пра жыцьцё і мастацтва.

Так скончылася лета і давялося спыніцца. Формы перашкаджалі рухацца па майстэрні, і разам з трыма студэнтамі, якія мне дапамагалі, мы пад праменямі ўжо па-восеньску пяшчотнага сонца набілі іх бэтонам. І ўсталявалі іх (усяго 13 скульптураў) тут, перад галоўным корпусам магілёўскага ўнівэрсытэту. Калі прыйдзеце на адкрыцьцё імпрэзы, якая адбудзецца ***сёньня, у пятніцу, а 17-ай,*** альбо ў любы іншы дзень, калі захочаце – пабачыце, што атрымалася...

***Андрэй ВЕРАБ'ЁЎ***




Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская,
6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 12. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 20.09.2001 г. а 17.05.